ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 3 (102) 20 – 26 студзеня 1995 г. Кошт 100 рублёў

*Расейская імперыя зьяўляецца спадкаемцай ня Рымскай, а Рамейскай (Візантыйскай) імперыі.* - ст. 2.

*Толькі пагроза поўнага зьнішчэньня вымусіла ВКЛ у 1969г. уступіць у саюз з польскай каронай* - ст. 3.

*40-гадовая гарадзенка падманным шляхам завалодала 6500 доларамі сваёй зямлячцы.* - ст 8.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.*

## ГРОЗНЫ, ГОРАДНЯ, ВАРШАВА...

Менавіта так прагназаваў вектар імперска-расейскай палітыкі вядомы праваахоўнік, дэпутат Думы Сяргей Кавалёў. Палітычныя аглядальнікі ў Варшаве, што днямі выступілі ў дыскусійнай праграме Польскага тэлебачаньня і гэтым самым ангажыравалі Гарадзенскую аўдыторыю, цалкам не выключылі разьвіцьцё падзей па сцэнару менавіта з узгаданай назвай?

І сапраўды, ці так далёка мы ад падзей, якія пакідаюць крывавы сьлед на гэтак сёньня для нас далёкай Чачні? Якое дачыненьне яны маюць да самай рахманай рэспублікі, якая знаходзіцца пры дарозе "з Расеі ў Эўропу". А самае непасрэднае!!! "Можа нават і лёсаноснае? Чаму? Як слушна вучылі нас класікі марксізма-ленінізма, у каранях гісторыка-палітычных падзей і зьяў заўсёды трэба бачыць эканамічную існасьць. Чачня - гэта далёка не фармальная бітва за захаваньне "целостности государства российского", тым больш не "ликвидация очага коррупции и преступности", гэта, перад усім, абарона эканамічных інтарэсаў супердзяржавы.

Добра вядома, што сёньня расейская эканоміка цалкам трымаецца на экспарце сыроўцаў, перад усім энерганосьбітаў (амаль 90% паступленьня валюты). Гэта дазваляе ўтрымліваць народную гаспадарку на валютнай "падпітке", бо колькасьць насельніцтва дзяржавы пасьля развалу СССР зьменшылася амаль у 2 разы. Экспарт газу і нафты залежыць толькі ад магчымасьцей транспарту, а тут у Расеі ёсьць праблемы. Страчаны нафтапаліўныя тэрміналы ў Прыбалтыцы, стратэгічныя нафта- і газаправоды ідуць праз незалежныя Ўкраіну і Беларусь. З Украінай, якая знаходзіцца ў жорсткім энергетычным "голадзе", складаюцца даволі цяжкія транспартныя адносіны, а вось з "Белоруссией", як кажуць, няма праблем.

Напружданая сітуацыя ў эканоміцы Расеі, зразумела, абвострана залежыць ад перспектыў дабычы нафты і газа і магчымасьцей яго транспарту на міжнародны рынак. Але ж з кожным годам дабыча нафты сур'ёзна зьніжаецца. Гэта вымушае расейскае кіраўніцтва падвышаць экспарт, а з пачатку бягучага года ўвогуле адменены экспартныя квоты. Зразумела, што ў сувязі з адкрыцьцём магутных нафтавых палёў на Апшэронскай паўвыспе (Азербайджан) і Паўночным Казахстане, узьнік магутны інтарэс расейскай паліўна-энергетычнай мафіі яскрава ў справе транспарту прадукта гэтых багатых крыніц і атрыманьня г.зв. "траньзітнага" прыбытку. А стратэгічны нафтапровад ідзе па Паўночнаму Каўказу і па тэрыторыі Чачні, якая ўздумала быць незалежнай. Дык што гаворыць гэтая рэчаіснасьць расейскаму кіраўніцтву, у якім гаспадзін Чарнамырдзін прадстаўляе інтарэсы паліўна-энергетычнага лоббі? А калі тут дадаць палітыка-геаграфічны фактар (праз Чачню ідуць транспартныя камунікацыі Расеі на Каспійскае ўзьбярэжжа і Закаўказьзе)! Зразумела, чаму Расейская дзяржава, нягледзячы на вялікія ахвяры, страту дэмакратычнага іміджу і асуджэньне міжнароднага супольніцтва імкнецца паставіць чачэнскую тэрыторыю пад жорсткі ваенны кантроль.

Палітычнае паражэньне Расеі ў чачэнскіх падзеях безумоўнае. Відавочны праблемы ваеннай і маральнай якасьці. Але ці ведаем мы ў гісторыі Расейскай Імперыі прыклад, каб гэтымі праблемамі супердзяржава кіравалася? Вось менавіта таму страчаны імідж на Паўночным Каўказе будзе патрабаваць "рэваншу" на Захадзе, на альтэрнатыўным стратэгічным накірунку ("Трахеі расейскай эканомікі" - Беларусі). Дума ўжо прагаласавала за сумеснае правядзеньне паседжаньня на 17 красавіка. Але ж, як казаў Казьма Пруткоў, "глядзі ў карані". Цікавасьць супердзяржавы да ўсё тых жа транспартных шляхоў, ды нафта- і газаперапрацоўчых комплексаў, які капітал расейскіх алігархій прагльнe на наступны дзень пасьля "шчыльнага" аб'яднаньня, відаць неўзброенымі вачыма. Але ці толькі гэтаму вучыць крывавы вопыт Чачні? Ёсьць яшчэ адзін імператыў: лёгка да Расеі далучыцца, але цяжка з яе выбрацца... Аб гэтым павінен падумаць кожны парламентарый, кожны палітычны дзеяч, кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь, калі ён зацікаўлены ў сапраўды свабодным і заможным жыцьці, калі не для сябе, дык для сваіх дзяцей.

**М.ЯВАР.**



**Фатаграфаваў І.САЎЧАНКА.**

## ЯШЧЭ АДЗІН КРОК ДА ВЫБАРАЎ

14 студзеня бягучага года ў Менску ў Доме літаратара адбыліся чарговыя паседжаньні Сойму Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і партыі БНФ. Былі разгледжаны пытаньні аб перарэгістрацыі, аб падрыхтоўцы да выбараў, аб зьездзе БНФ.

На пачатку працы Сойму старшыня выбарчага камітэту У.Анцулевіч уручыў старшыні Сойму З.Пазьняку пасьведчаньне Міністэрства Юстыцыі аб рэгістрацыі БНФ "Адраджэньне" як грамадзкага руху, без ужываньня слова "палітычна", а гэта значыць, што рух не займаецца палітычнай дзейнасьцю і суполкі БНФ "Адраджэньне" могуць быць створаны ва ўсіх арганізацыях, нават у войску і Міністэрстве ўнутраных спраў, не парушаючы пры гэтым знакамітага закона аб дэпалітызацыі прадпрыемстваў і ўстаноў.

Затым было ўручана і другое пасьведчаньне аб рэгістрацыі партыі БНФ.

Сп. Анцулевіч паведаміў, што партыя БНФ і грамадзкі рух БНФ "Адраджэньне" - пакуль што адзіныя аб'яднаньні на Беларусі, перарэгістраваныя ўладамі паводле новых законаў. Зарэгістравана таксама сімволіка БНФ і ею неабходна афіцыйна і як мага шырэй карыстацца, асабліва ў перадвыбарчай кампаніі.

Для агульнадзяржаўнай каардынацыі падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Савет рэспублікі створаны выбарчы камітэт.

Каб не паўтарыць памылак леташніх выбараў прэзідэнта рэспублікі, па прапанове БНФ 12 студзеня быў створаны адзіны перадвыбарчы блок з пяці, пакуль, партый дэмакратычнай арыентацыі: сялянская сацыял-дэмакратычная грамада, хрысьціянска-дэмакратычная, нацыянал-дэмакратычная і Партыя Беларускага Народнага Фронту. Усе гэтыя партыі пагадзіліся з тым, што на час выбарчай кампаніі ствараецца адзіны каардынацыйны орган на базе выбарчага камітэту БНФ, каб забясьпечыць вылучэньне па кожнай акрузе аднаго лепшага кандыдата ў дэпутаты з ліку сяброў гэтых партый.

На Сойме вырашана рыхтаваць кандыдатаў ва ўсе акругі і ва ўсе выбарчыя камісіі. Бо, як сьведчыць вопыт, у нас выбары ў адзін этап не пройдуць.

Сойм зацьвердзіў папраўкі ў статут БНФ, ратыфікаваў міжпартыйнае перадвыбарчае пагадненьне.

Статут партыі, як паведаміла сп.Чуйко, быў прыняты ў Мінюсьце амаль адразу з адным патрабаваньнем, што ўсе партыйныя паседжаньні на месцах пратакалююцца і дакументы абавязкова аддаюцца ў архіў.

У сваім выступе старшыня Сойма З.Пазьняк падкрэсьліў, што сітуацыя перад гэтымі выбарамі будзе больш складанай, чым у 1990 годзе. Ён прапанаваў правесьці вылучэньне сваіх кандыдатаў па акругах праз збор подпісаў насельніцтва, што паспрые як дадатковай агітацыі, так і атрыманьню інфармацыі аб настроях людзей. Старшыня Сойма нагадаў пра партыйную дысцыпліну - інструкцыі Сойма абавязковы для выкананьня.

Па прапанове З.Пазьняка было вырашана правесьці чарговыя зьезды Беларускага Народнага Фронту і партыі БНФ адначасова ў красавіку бягучага года.

У другой палове дня была праведзена Соймавая канферэнцыя. Больш падрабязна пра яе чытайце на другой старонцы гэтага нумара.

**Я.КУХТА,**
**сябра гарадзенскай Рады БНФ.**

## АНДРЭЙ КОЗЫРАЎ БУДЗЕ Ў МЕНСКУ 23 СТУДЗЕНЯ

Прэс-служба МЗС Беларусі пацьвердзіла, што 23 студзеня Менск з афіцыйным візітам наведае міністр замежных спраў Расеі А.Козыраў. Мэты візіту пакуль што невядомыя. Аднак, на думку экспертаў, наведваньне А.Козыравым нашай краіны прасьледуе мэту ўзгадненьня з беларускім кіраўніцтвам двухбаковага пагадненьня, якое плануецца падпісаць падчас візіту на Беларусь Прэзідэнта Расеі Б.Ельцына.

## МЕСЦАМ ПРАВЯДЗЕНЬНЯ МІТЫНГУ АБРАНЫ ПЛЯЦ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

17 студзеня адбылася нарада лідэраў прафсаюзных арганізацый Беларусі, што ўваходзяць у Асацыяцыю Незалежных Прафсаюзаў Прамысловасьці (АНППБ). на паседжаньні разглядалася пытаньне арганізацыі калектыўнай рэспубліканскай акцыі пратэсту супраць парушэньня працоўных і сацыяльна-эканамічных правоў працоўных.

Напярэдадні, Федэрацыя Прафсаюзаў (ФПБ) прыняла рашэньне аб правядзеньні мітынгу і маршу пратэста 26 студзеня ў Менску. Месцам правядзеньня абраны пляц Незалежнасьці.

Як патлумачыў старшыня рэспубліканскага Савета Прафсаюзаў аўтасельмашу А.Бухвостаў, перамовы з Кабінетам міністраў па сацыяльна-эканамічных патрабаваньнях зайшлі ў тупік.

## ПРЭЗІДЭНТ ЗМАНІЎ МІЛІЦЫЯНТАМ

Навагодняе абяцаньне А.Р.Лукашэнкі з першага студзеня 1995 г. падвысіць на 50% заробак супрацоўнікам сілавых структураў апынулася перабольшваньнем.

Па зьвестках, супрацоўнікі МУС атрымалі заробак толькі на 30% вышэй, чым у сьнежні.

**СІМ**

 





# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## НА СОЙМАВАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ БНФ

**16 студзеня г.г. у Менску Беларускім Народным Фронтам "Адраджэньне" была праведзена соймавая канферэнцыя, прысьвечаная імперскай палітыцы Расеі. У дакладах асноўных выступоўцаў (Павел Лойка, Юры Хадыка, Зянон Пазьняк) на падставе аналізу мнагалікіх гістарычных фактаў былі паказаны заканамернасьці ўтварэньня, разьвіцьця і распаду большасьці сусьветных імперыяў, раскрыты агульнасьці і адрозьненьні прынцыпаў іх унутранай і вонкавай палітыкі.**

Сярод палажэньняў, выказаных дакладчыкамі, вельмі цікавымі зьяўляюцца наступныя:

- усе вялікія імперыі існуюць прыблізна 4-6 стагоддзяў,
- імперыялізм - гэта сусьветнае зло,
- сьцьвярджэньне, быццам бы Расея зьяўляецца неардынарнай краінай, зьяўляецца міфам, бо ўсё ў яе гісторыі заканамерна і вытлумачальна,
- Расейская імперыя зьяўляецца спадкаемцай ня Рымскай, а Рамейскай (Візантыйскай) імперыі, і запазычыла ад апошняй не толькі найбольш жорсткія прынцыпы імперскай палітыкі (сярод іх: набыцьцё патрыярхам "паўнамоцтваў" Хрыста "...імператар становіцца вышэй патрыярха і "зьяўляецца прадстаўніком Бога на зямлі", перадача трона ў спадчыну, патрабаваньне адзінай мовы, поўнае прыніжэньне годнасьці асобнага чалавека "... у Расеі ніхто і нішто не бароніць асобу"), але і блізкае гучаньне сваёй назвы,
- рускі народ ніколі не жыў у свабодзе і ніколі не вызначаў палітыку Расеі (а таму зараз чачэнскі народ змагаецца не толькі за сваю свабоду, але і за свабоду рускіх людзей),
- у імперскай палітыцы бальшавікоў не было нічога арыгінальнага,
- Расея ў той форме, у якой яна існуе зараз, не здольна стварыць ніякага іншага грамадзтва, акрамя тыранічнага,
- XX-е стагоддзе - гэта час скону імперыяў,
- але, як і 400 год таму (перыяд смуты, зьвязаны з баярскім кіраваньнем), сучасны Расейскі крызіс вельмі небясьпечны для суседзяў, зараз робіцца спроба зноў адраджаць імперыю і гэта можа быць прычынай трэцяй сусьветнай вайны.

У рамках тэмы канферэнцыі найбольш актуальна гучала паведамленьне З.Пазьняка аб запазычаных яшчэ ад Візантыі прынцыпах імперскай палітыкі Расеі ў дачыненьні да суседзяў. Гэтыя прынцыпы наступныя:

- правядзеньне палітыкі ў дачыненьні да суседзяў чужымі рукамі,
- не дапушчэньне стварэньня моцных дзяржаў на сваіх межах,
- не дапушчэньне багаценьня суседніх краін,
- не дапушчэньне ўтварэньня любых саюзаў на межах імперыі,
- агрэсіўная палітыка ў адносінах да суседзяў,
- падзяленьне грамадзтва ў суседніх краінах на канфліктуючыя групоўкі,
- раздрабленьне іх тэрыторыі і стварэньне канфліктуючых зон,
- распаўсюджваньне ідэй, выгадных імперыі, у чужым грамадзтве,
- укараненьне пустапарожных ідэй у суседнія грамадзтвы у час правядзеньня агрэсіўнай палітыкі ў адносінах да іх з мэтай адцягваньня ўвагі грамадзтва ад гэтай палітыкі.

Выступоўцам прыводзіліся шматлікія факты з самай апошняй гісторыі СССР, а таксама СНД і Прыбалтыкі, якія неабвержна даводзілі слушнасьць прылічных прынцыпаў. Пры гэтым найбольшая ўвага была аддадзена апошняму з іх. Так, у прыватнасьці, ён нагадаў наступныя пустапарожныя ідэі, з дапамогай якіх у значнай ступені адцягвалася ўвага беларускага грамадзтва ў апошнія гады і якія акрамя названага сэнсу мелі дадатковыя мэты:

- уцягнуць Беларусь зноў ў імперыю (ідэі: "калектыўная бясьпека", "аб'яднаньне грашовых сістэм", "аднаўленьне СССР", "аб'яднаньне ўсіх славян", "эканамічны саюз", "мытны саюз");
- захапіць эканоміку і маёмасьць Беларусі ("Падвойнае грамадзянства");
- развал тэрыторыі ("Яцьвягі");
- разгром дэмакратыі і апазіцыі ("кансалідацыя ўсіх сіл").

Пры гэтым, выступоўца ўдзяліў значную ўвагу найноўшай (і быццам бы слушнай з эканамічнага пункту гледжаньня) ідэі, якая заключаецца ў правядзеньні да адпавядаючай рэальнасьці платы за жыльлё (праз, натуральна, яе значнае павелічэньне). У выпадку яе рэалізацыі нярэдка будуць узьнікаць сітуацыі, калі чалавек павінен будзе ўсе зароблены грошы аддаваць на аплату кватэры, газу, вады, цяпла, электраэнергіі. Атрымаецца, што ў час правядзеньня такой "рэформы" практычна ўсё грамадзтва будзе занятае не палітычнымі праблемамі, а бытавымі. Менавіта тым, як заплаціць за жыльлё, як пасьля гэтага пракарміцца, як аформіць усе паперы і прайсьці праз усе колы бюракратычнага пекла, каб атрымаць кампенсацыю і гэтак далей. Калі гэтая ідэя будзе рэалізоўвацца зараз (напярэдадні і ў час выбараў у новы Вярхоўны Савет Беларусі), дык ніхто не будуць цікавіць пытаньні палітыкі. Усе будуць думаць толькі аб адным - як выжыць! "Нас тады можна будзе ўзяць голымі рукамі, як кажуць, цёпленькімі" - адзначыў прамоўца.

У заключнай частцы свайго выступленьня Зянон Пазьняк растлумачыў, чаму Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" за адносна доўгі час свайго існаваньня не памыляўся у сваіх стратэгічных палітычных прагнозах і, такім чынам, не зрабіў ніводнай значнай палітычнай памылкі. Сапраўды, і да гэтай пары многія людзі зьдзіўляюцца, чаму весь час так адбываецца, што калі-некалі выказаныя лідэрам Фронту спачатку быццам бы не адпавядаюць рэчаіснасьці, але праходзіць час (паўгады, год, два) і аказваецца, што яны мелі рацыю. Такіх прыкладаў кожны, хто сочыць за палітыкай, можна ўспомніць вельмі многа. Дык вось, адбывалася так таму, што кіраўніцтва Фронту зыходзіць з уяўленьняў аб імперскай сутнасьці Расеі.

## ЗВАРОТ
### да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў г.Горадні**

Беларускае радыё і тэлебачаньне не даюць поўнай інфармацыі аб падзеях у сьвеце. Так, агрэсія Расеі ў Чачні альбо замоўчваецца поўнасьцю, альбо ўспамінаецца некалькімі словамі.

Беларускі народ не мае магчымасьці ведаць аб падзеях праўдзівую інфармацыю.

Дэмакратычнае аб'яднаньне ветэранаў г.Горадні зьвяртаецца да Вярхоўнага Савета РБ.

1. Назначыць кіраўніком тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь незалежны Савет з прадстаўнікоў розных партый і арганізацый.

2. Перадаць Беларускі Дом друку ў Менску незалежнаму Савету.

**Дэмакратычнае аб'яднаньне ветэранаў Горадні.**
**12 студзеня 1995 года.**




## БНФ ЗЬБІРАЕЦЦА ПАДАЦЬ У СУД НА АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКУ

Як паведаміў каардынатар парламенцкай апазіцыі Беларускага Народнага Фронту Сяргей Навумчык, падрыхтаваны іск да Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі аб абароне гонару і годнасьці БНФ. Іск будзе пададзены з тае нагоды, што на сесіі Вярхоўнага Савету Лукашэнка заявіў аб тым, што БНФ на сваім мітынгу заклікаў да адпраўкі грамадзян рэспублікі ў Чачню на абарону Джахара Дудаева. Па словах сп.Навумчыка, ён атрымаў адказ на свой запыт у пракуратуру Беларусі, дзе паведамляецца, што такіх заклікаў на названым прэзідэнтам мітынгу не было. Пакуль што не вядома, у які менавіта суд будзе пададзены іск, бо існуе праблема з прапіскай Аляксандра Лукашэнкі. Як вядома, у перыяд перадвыбарчай кампаніі сп. Лукашэнка заявіў, што яго пашпарт скралі. У новым пашпарце прэзідэнта, па дадзеным сп.Навумчыка, штамп аб прапісцы не стаіць увогуле. У гэтай сітуацыі разглядаецца магчымасьць прад'яўленьня Аляксандру Лукашэнку іска як да асобы без вызначанага месца жыхарства.

**СІМ**

## ПАЛЯКІ АДЧУВАЮЦЬ СТРАХ

У большасьці грамадзян Польшчы выклікае занепакоенасьць той факт, што Расея на будучыя пяць-дзесяць год не страціць свайго жаданьня наноў мець пануючае становішча на тэрыторыі Усходняй Эўропы, а таксама стварыць імперыю на тэрыторыі былога СССР.

Як вызначыла апытаньне, праведзенае Цэнтрам дасьледаваньняў грамадзкай думкі, па пагрозе з Усходу выказваюць непакой 58% з 1164 апытаных. 20% рэспандэнтаў не падзяляюць гэтага непакою. 63% лічаць, што Расея жадае падпарадкаваць Польшчу сваім імперскім інтарэсам.

Калі гэта сапраўды так, то, на думку 41% апытаных, Польшча не мае шанцаў разьлічваць на дапамогу Захаду. Спрабуючы стаць членам НАТА, Польшча, як упэўнены 69%, не павінна зьвяртаць увагу на пазіцыю Расеі.

**(з.д.)**

## ДЭКЛАРАЦЫЯ ПРЫНЦЫПАЎ СТВАРЭНЬНЯ ПЕРАДВЫБАРЧАГА БЛОКУ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛ

Мы, паўнамоцныя прадстаўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, Беларускай сялянскай партыі, Беларускай хрысьціянска-дэмакратычнай партыі, Партыі Беларускага Народнага Фронту, Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, прааналізаваўшы палітычную сітуацыю, якая склалася ў Беларусі напярэдадні выбараў новага вышэйшага органу заканадаўчай улады Рэспублікі Беларусь, заяўляем аб стварэньні перадвыбарчага блоку дэмакратычных сіл, паклаўшы ў аснову наступныя прынцыпы:

- забесьпячэньне правоў асобы, абвешчаных Усеагульнай Дэкларацыяй правоў чалавека, і стварэньне прававой дзяржавы;
- умацаваньне дзяржаўнага суверэнітэту; агульнадзяржаўныя інтарэсы маюць бясспрэчны прыярытэт над інтарэсамі класавымі, партыйнымі, групавымі;
- правядзеньне рашучых рынкавых рэформаў, якія прадугледжваюць:

а) увядзеньне нацыянальнай валюты;
б) зьніжэньне ўзроўню інфляцыі;
в) прыватызацыю дзяржаўнай маёмасьці;
г) рэфармаваньне калгасаў і саўгасаў, стварэньне спрыяльных умоў для развіцьця фермерскіх гаспадарак;

- абвяшчэньне ўласнасьці грамадзян і юрыдычных асоб сьвяшчэннай і недатыкальнай, абарона яе ўсёй сілай дзяржаўнай улады;
- стварэньне цывілізаванай сістэмы сацыяльнай абароненасьці;
- адраджэньне духоўнага жыцьця і нацыянальнай самасьвядомасьці беларускага народу, умацаваньне дзяржаўнасьці беларускай мовы;
- стварэньне грамадзянскай супольнасьці і забеспячэньне нацыянальна-культурнай аўтаноміі нацыянальных меншасьцяў Беларусі;
- умацаваньне барацьбы са злачыннасьцю.

Гэты блок утвараецца тэрмінам на 5 год і захоўвае асноўныя прынцыпы сваёй дзейнасьці на працягу чыннасьці нававыбранага Вярхоўнага Савета.

Мы пагаджаемся ў тым, што:

- на час выбарчай кампаніі ствараецца адзіны каардынацыйны орган на базе перадвыбарчага камітэту БНФ для таго, каб забясьпечыць вылучэньне па кожнай акрузе аднаго лепшага кандыдата ў дэпутаты з ліку сяброў нашых партый і аб'яднаць інтэлектуальныя, тэхнічныя і арганізацыйныя магчымасьці нашых арганізацый;
- кожная партыя, якая правядзе ў склад новага Вярхоўнага Савета неабходную для стварэньня фракцыі колькасьць дэпутатаў, будзе мець права ўтварыць сваю фракцыю для абароны і рэалізацыі праграмных мэтаў гэтай партыі.

Да 5 лютага 1995 года Дэкларацыя адкрытая для падпісаньня тымі партыямі і арганізацыямі Рэспублікі Беларусь, якія падзяляюць вышэйпрыведзеныя прынцыпы дзейнасьці блоку.

## МЕМАРЫЯЛ ПРАТЭСТУЕ

15 студзеня на Пушкінскім пляцы расейскай сталіцы распачаўся мітынг супраць вайны ў Чачне.

Мітынг зарганізаваны маскоўскім таварыствам "Мемарыял" і другімі праваабарончымі арганізацыямі сумесна з Федэральнай партыяй "Дэмакратычная Расея".

Мітынг праходзіў пад лозунгамі: "Дэмакратыя ў Расеі пад пагрозай!", "Пад бомбамі ў Чачне гінуць не толькі людзі, а і давер уладзе!"

**(з.д.)**

 



# ГРАМАДЗТВА

## ЗВАРОТ
## ДА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Мы, настаўнікі сярэдніх навучальных установ горада Горадні, выказваем Вам сваю занепакоенасьць будучым лёсам нашай Бацькаўшчыны. Гэта занепакоенасьць асабліва ўзрасла пасьля шэрагу Вашых выступленьняў на дзяржаўным тэлебачаньні. Працэс нацыянальнага адраджэньня, які вельмі марудна, але пачаў набіраць моц пры былым урадзе, сёньня, на нашу думку, штучна спыняецца.

Вашы, шаноўны Прэзідэнт, незразумелыя выказваньні аб дзяржаўнай мове, ідэі "уз'яднаньня" з Расеяй, падзел на "малодшых" і "старэйшых" братоў не могуць не выклікаць зьдзіўленьня. Такія выказваньні першай дзяржаўнай асобы могуць спрыяць фармаваньню ў грамадзтве комплексу нацыянальнай прыніжанасьці; па сутнасьці ставяць пытаньне аб магчымасьці існаваньня беларускай дзяржавы ў сучасным сьвеце, аб будучыні беларускага народа, яго мовы, гісторыі, культуры.

У сувязі з гэтым, хацелі б нагадаць Вам словы народнага паэта Янкі Купалы, які ў 1919 годзе пісаў: "Беларусь, як і кожная іншая дзяржава, мае права і даб'ецца раней ці пазьней гэтага права стаць роўнай і вольнай дзяржавай паміж сваімі суседзямі". Ці Вы, шаноўны Прэзідэнт, не згодны з ім? Арыентуючыся на Вашу пазіцыю, пэўныя колы грамадзтва пачынаюць спробы фармаваньня грамадзкай думкі аб нашай мове як мове не прыдатнай да выкарыстаньня ў навуцы, юрыспрудэнцыі, справаводзтве, як мове не сучаснай, мове "вясковай", "калгаснай". Гэтыя людзі не ведаюць, альбо не хочуць ведаць, што наша мова ўжо мае дзяржаўную гісторыю. Выдатны помнік нашай гісторыі "Статут Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага" напісаны на старабеларускай мове. Менавіта яго выкарыстоўвалі ў іншых эўрапейскіх дзяржавах як узор для перайманьня. На нашай зямлі нарадзіліся і на нашай мове гаварылі Эўфрасіньня Полацкая і Кірыла Тураўскі, Францыск Скарына і Сымон Будны, Янка Купала і Якуб Колас. Ці павінны мы адмаўляцца ад такой спадчыны? Безумоўна, не.

Таму мы, настаўнікі розных нацыянальнасьцяў, веравызнаньняў, узростаў, хочам выказаць спадзяваньне, што Вы, Прэзідэнт, зразумееце нашу занепакоенасьць і ў наступных выступленьнях не будзеце больш уздымаць пытаньні, якія, па сутнасьці, ужо вырашаны. Беларусь - гэта незалежная краіна, а беларуская мова - гэта дзяржаўная мова, і абавязкам усіх дзяржаўных асоб зьяўляецца ўмацаваньне гэтага становішча. Мы патрабуем выкананьня дзеючага Закона аб дзяржаўнай мове, Вашага асабістага ўдзелу ў гэтай справе.

Абвясьціўшы дзяржаўную незалежнасьць, наша Радзіма стала на нялёгкі шлях вяртаньня да беларускай мовы, беларускай гісторыі і культуры. І калі мы хочам, каб Беларусь сапраўды стала краінай, з якой лічацца, якую ведаюць і паважаюць, мы павінны прайсьці гэты шлях Адраджэньня і Пакаяньня, якім бы цяжкім ён не быў.

**Настаўнікі горада Горадні, усяго больш за 200 подпісаў.**

## ЧАМУ КВІТНЕЮЦЬ ПРАЙДЗІСЬВЕТЫ АД ПАЛІТЫКІ?

Прачытаўшы і ў які раз перачытваючы ў "Гарадзенскай праўдзе" інтэрв'ю з сябрамі Беларускага Народнага Фронта Р.Фарманянам і А.Астроўскім, а крыху раней з старшынёй Народнага саюза Беларусі "Ачышчэньне" Б.Барыхіным, задаюся пытаньнем, чаму менавіта на Беларусі бурна разьвялі сваю дзейнасьць барыхіны. Чаму менавіта ў нас яны знайшлі спрыяльную глебу, на якой расквітнелі і спрабуюць атруціць і зьнішчыць першыя парасткі нацыянальнага Адраджэньня, зганьбаваць людзей, якія ўзяліся за гэтую справу?

Паглядзіце, з якой нахабнасьцю Б.Барыхін спрабуе вучыць нас як правільна выкарыстоўваць нацыянальныя кадры: "Апологетов национализма вообще не стоит использовать на государственной службе" ці выкарыстоўваць "в специально оговоренных случаях", "в частных учебных заведениях". Лічу, што такія думкі могуць зьявіцца ў чалавека толькі пасьля вялікай пахмелкі.

Хто даў права чалавеку, які не мае нічога агульнага з нашай Бацькаўшчынай, не ведае і не ўспрымае наш народ, яго культуру, гісторыю, выступаць супраць нашай сімволікі, абразьліва казаць пра нашую мову?

Барыхіны і "барыхіншчына" - гэта зьява. Сьляды яе, азірнуўшыся крыху назад, лёгка можна ўбачыць у недалёкім мінулым. дастаткова ўспомніць барацьбу за незалежнасьць краін Балтыі (кроў і сьмерць у Вільні, барацьбу за "права русскоязычного населения в Эстонии, розныя "союзы спасения"), захады па адлучэньню Крыма ад Украіны, стварэньне непрызнанай Прыднястроўскай рэспублікі, грамадзянскую вайну ў Таджыкістане, увод войск у Чачню. Усё гэта - нішто іншае, як расейскія вялікадзяржаўныя амбіцыі, накіраваныя на тое, каб "русский человек везде себя чувствовал дома". У сувязі з гэтым, хацелася б нагадаць Б.Барыхіну адну рускую прымаўку: "В чужой монастырь со своим уставом не суйся".

Цалкам зразумела, чаму барыхіных бярэ дрыготка ад беларускасьці, асабліва ад сапраўднай гісторыі Беларусі, а не той, якую як добрую казку пісалі на заказ усялякія "абэвэгэдэйкі". Нават пасьля лёгкага азнаямленьня з сапраўднай гісторыяй, становіцца зразумела, што на працягу ўсёй сваёй гісторыі Вялікае княства Літоўскае вяло барацьбу за незалежнасьць і суіснаваньне з маскоўскімі князямі і царамі. Толькі пагроза поўнага зьнішчэньня вымусіла ВКЛ у 1569 годзе ўступіць у саюз з польскай каронай. Няведаньне сапраўднай гісторыі дазваляе на самым высокім узроўні разважаць і сьцьвярджаць пра "общие корни с великим старшим братом".

Чаму зьявіліся спрыяльныя умовы для дзейнасьці барыхіных? Ці не надта агульна падышоў парламент пры вырашэньні пытаньня аб грамадзянстве ў Рэспубліцы Беларусь? Ці не надта спрасьціў працэдуру яго атрыманьня? Зараз фактычна для таго, каб стаць грамадзянінам Беларусі дастаткова любому прайдзісьвету любіць беларускую каўбасу. А атрымаўшы грамадзянства, можна заўзята, маючы на тое падставу (грамадзянін жа), узяцца за пераробку Канстытуцыі, ганьбаваньне ўсяго беларускага, бо ўладам на ўсё пляваць. Парвалі нацыянальны сьцяг - лухта, сарвалі герб Пагоня - аналагічна, а зьвярнуліся патрыёты наконт гэтага да іх - ніякай рэакцыі. Як у такім выпадку не квітнець розным прайдзісьветам ад палітыкі?

Для беларусаў настае вельмі важны момант, можна сказаць пераломны ў нашай гісторыі - выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. Ад таго, наколькі адказна мы паставімся да гэтай падзеі, залежыць далейшы шлях краіны да росквіту, нацыянальнага Адраджэньня, вяртаньня ў цывілізаваную Эўропу.

Жыве Беларусь!

**Ч.І.**

## ПАДРЫХТОЎКА ДА ВЫБАРАЎ ПА-МАСТОЎСКУ

Выбары ў Вярхоўны Савет - справа сур'ёзная, таму кіраўніцтва вытворчага аб'яднаньня "Мастоўдрэў" пачало падрыхтоўку да іх задоўга да абвяшчэньня. Генеральны дырэктар "Мастоўдрэў" сп. Мікалай Нічыпаравіч Сліж задачу бачыць канкрэтна: патрэбна правесьці свайго чалавека. А каб зрабіць гэта, трэба прыбраць з дарогі ўсіх, хто замінае.

Адным з першых трапіў пад прэс майстар РБУ "Мастоўдрэў" Аляксандр Віктаравіч Пятрашка. Чым жа не дагадзіў сп.Пятрашка кіраўніцтву аб'яднаньня. Справа ў тым, што на прэзідэнцкіх выбарах ён меў "няшчасьце" трапіць у склад раённай выбарчай камісіі ад БСДГ і шмат крыві папсаваў начальнікам рознага рангу, праверачы сапраўднасьць, подпісаў, а потым яшчэ меў сьмеласьць зьявіцца на ўчастак, дзе назіральнікам ад "Мастоўдрэў" быў сам сп.Сліж.

Не трэба доўга думаць, як больш балюча дапячы праклятаму "дэмакрату" ў наш "дэмакратычны" час. У Мастах гэта прасьцей простага. Звольніць з працы, і хай пакруціцца, бо іншую магчымасьць знайсьці практычна немагчыма. Рэалізаваць задуму было даручана намесьніку генеральнага дырэктара па будаўніцтву сп.Уладзіміру Александровічу. Той, у сваю чаргу, каб надаць справе "законны від і толк" даручыў аднаму пралетарыю з падхалімным ухілам падрыхтаваць адозву ад імя рабочых, пра, нібыта, грубыя адносіны да іх з боку майстра Пятрашкі, што неадкладна і было зроблена. Праўда, абсалютная большасьць подпісаў пад адозвай была падроблена, але гэта ўжо нікога не цікавіла.

У лістападзе сп.Пятрашка быў выкліканы да сп.Александровіча, дзе пачуў наступнае: "Альбо ты звальняешся па ўласнаму жаданьню, альбо мы звальняем цябе па артыкулу. Генеральны на цябе мае зуб". Пятрашка наадрэз адмовіў, да і па артыкулу звольніць аказалася не проста, бо да гэтага часу Пятрашка не меў ні заўваг, ні вымоў, ні канфліктаў. Але ва ўсемагутнага чыноўніка заўсёды ёсьць запасны выхад. Як сьпявае расейскі бард Асмолаў: "Не пасадзяць як Макдзолу, дык па штату скароцяць". Так і зрабілі. У канцы лістапада пасаду майстра, на гэтым участку скарацілі. Вось і ўсё. Але гэта быў як бы мовіць толькі палітычны бок праблемы, а, як колісьці вучылі класікі марксізму-ленінізму, у падмурку ўсялякай палітыкі ляжыць эканоміка, у нашым выпадку такая галіна эканомікі, як будаўніцтва, а дакладней, будаўніцтва ўсё тых жа катэджаў. Будуецца іх у Мастах не мала. Будуюць галоўны механік ВА "Мастоўдрэў" сп.Шчука, згаданы вышэй намесьнік генеральнага па будаўніцтву сп.Александровіч, прараб гэтага ж РБУ Дагіль. Ну а зяць генеральнага сп.Шушык сваю будоўлю ўжо пасьпяхова скончыў. Будуюць і іншыя, але пра іх іншая гаворка, а вось пра іх людзей "Мастоўдрэў" дакладна вядома, што асноўная маса матэрыялаў на іх будоўлі прайшла цераз РБУ, у тым ліку і шляхам фіктыўнага сьпісаньня на ўчастках. Яно так, калі раскінуць на ўсіх зьнесеную трохпавярховую хатку, не так ужо і па многу атрымоўваецца. Ніякая рэвізія не знойдзе. Гэта калі на ўсіх. Ды вось майстар Пятрашка на сваім участку ніяк не хоча нічога сьпісваць. Падрывае праклятты "дэмакрат" "эканоміку", а гэта ўжо справа палітычная. Тут паблажак быць не можа.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## ЧАС РАСТАВІЦЬ КРОПКІ НАД «і»...

Ёсьць людзі, якім заўжды пры сустрэчы хочацца паціснуць руку. Ёсьць людзі, якія выклікаюць сваёй прысутнасьцю агіду. Менавіта такім мне ўяўляецца беларускі прэзідэнт А.Р.Лукашэнка, кожнае выступленьне якога - гэта жаданьне прынізіць годнасьць Беларусі, беларускай мовы, традыцый, гісторыі, культуры, яе патрыятычна настроеных сыноў і дачок. Звышцынічным асабіста для мяне зьявілася навагодняе прывітаньне прэзідэнта, зробленае на замежнай мове. Мове краіны, якая вядзе бязьлітасную вайну супраць маленькага народа, які пажадаў быць вольным. Хтосьці можа запярэчыць, маўляў, што ўсё выказанае мною супярэчлівае і надуманае. У гэтым выпадку нагадаю, што Аляксандр Рыгоравіч вельмі добра пачувае сябе ў атмасферы палітычнага скандалу, правакацыі. Колькі было правакацыйных заяў накшталт барацьбы з карупцыяй, запуску прадпрыемстваў, зьніжэньня інфляцыі. Заявы засталіся заявамі, а справы, як кажуць, ні на грош. Ведае і сам прэзідэнт, што за абяцанкі трэба плаціць. А чым? Лепей зкампраментіраваць апазіцыю ў Вярхоўным Савеце ад Беларускага Народнага Фронту, што яна, нягодная, прагаласавала за прывілеі дэпутатам. Хоча такім вось чынам зьняць частку сваёй віны і пераклaсьці на плячы іншых. Усім вядома, што гэта хлусьня, апазіцыя не галасавала ні за якія прывілеі. Таму выкручвайся не выкручвайся, а адказваць прыйдзецца. Гісторыя паставіць мноства абвінавачаньняў. Тут і нежаданьне ўмацоўваць дзяржаўны суверэнітэт, нежаданьне весьці сапраўдныя рынкавыя рэформы, нежаданьне стварaць умовы для росквіту нацыянальнай культуры, патрыятызму. Ведаючы, што час расплаты не за гарамі, прэзідэнт разам з атачэньнем працягвае спробы забарон. Нявыхад некаторых газет я разглядаю як першую спробу на шляху стварэньня аўтарытарнага рэжыму. Пацьверджаньнем гэтаму візіт А.Р.Лукашэнка да Ўзбекістану. На маю думку, не баючыся ён езьдзіў купляць да свайго калегі прэзідэнта Карымава, а езьдзіў вывучаць яго вопыт па забароне дэмакратычных партый і руху, незалежнага друку. Інфармацыйны вакум даспадобы прэзідэнту. Не будзе вольнага слова, думкі, можна будзе безперашкодна рабіць усё, што будзе да густу.

**Алесь ЗАХАРАЎ,**
**г.Горадня.**

## ЗНАЙШЛІ ГАСПАДАРОЎ ХАРОМАЎ

У газеце "Пагоня" N 41 ад 9-13 сьнежня 1994 года надрукаваны артыкул "Хто у харомах гаспадарыць?", у якім былі зьмешчаны два фотаздымкі дамоў-палацаў, што ў вёсцы Ласосна каля Горадні. Аўтар артыкула зьвяртаўся да чытачоў з прозьбай: "Страна должна знать своих героев". Адгадаць, каму належаць дамы-палацы дапамаглі, кіраўнікі рэвізійнага ўпраўленьня службы кантролю адміністрацыі Прэзідэнта па Гарадзенскай вобласьці. Будынкі належаць двум сынам, Юрыю і Роберту, цяперашняга старшыні Гарадзенскага Савета Р.А.Алізаровіча. Што, яны бяздомныя, спытае чытач. Не. У Алізаровіча-старшага ёсьць кватэра ў Горадні, 97,6 квадратных метраў, у якой ён жыве з жонкай, такім чынам выпадае 33,7 кв. метраў жылой плошчы на кожнага. А калі дадаць двух сыноў, дык атрымаецца па 16,85 кв. метраў. Да гэтага неабходна дадаць, што ў Роберта Алізаровіча, які працуе ў СПК "Гожа", ёсьць прыватызаваны ім дом, агульнай плошчай 100,2 кв.м, хаця ён сам прапісаны па месцы жыхарства бацькі ў Горадні. Але гэта не перашкодзіла занесьці Роберта ў пагаспадарчую кнігу Гожскага сельскага Савета.

**Ільля БАРЫСАЎ,**
**Старшыня ветэранскай арганізацыі Скідальскага гарсавета дэпутатаў, Гарадзенскі раён.**

## ПА ВЫПАДКУ АТРУТЫ БУДЗЕ ЎЗБУДЖАНА КРЫМІНАЛЬНАЯ СПРАВА

11 студзеня ў Паставах зафіксаваны выпадак атруты ракетным акісьляльнікам "самін". Колькасьць пацярпелых пакуль што высьвятляецца.

Акісьляльнік раней належыў расейскім часткам ракетных войскаў. Перад тым, як пакінуць Беларусь, расейцы рэалізавалі 8500 тон акісьляльніка "меланж" і "самін" камерцыйнай фірме "Істком", зарэгістраванай у Адзінцоўскім раёне Маскоўскай вобласьці. Менавіта "Істком" распачаў продаж арганізацыям "саміна" як паліва для кацельных, без усялякай папярэдняй інфармацыі аб таксічнасьці "паліва".

Акрамя Паставаў, акісьляльнік закупілі прадпрыемствы Бабруйска, Маладзечна, Нарачы.

Пракуратура Беларусі распачала праверку гэтага факту. Чакаецца, што ў найбліжэйшы час будзе ўзбуджана крымінальная справа.

**СІМ**

